# Голас Радзімы

№ 8 (2046)
25 лютага 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.






У лютым у Мінску адбыўся першы антыкварна-букіністычны аўкцыён. Яго арганізавалі Мінскі абласны кнігагандаль, Дзяржаўная бібліятэка імя Леніна і акадэмічная імя Якуба Коласа. Мэта аўкцыёну — высветліць і прыцягнуць у тавараабарот рэдкія букіністычныя выданні, папоўніць дзяржаўныя кнігасховішчы, палепшыць задавальненне попыту шматлікіх бібліяфілаў на асабліва каштоўныя кнігі.

НА ЗДЫМКАХ: Аляксандр ЗАВАДСКІ задаволены пакупкай. Ён набыў бессмяротны твор Гётэ «Фаўст», выдадзены ў 1899 годзе; аўкцыён вядзе галоўны рэжысёр дзяржаўнага Рускага тэатра імя Горкага ў Мінску Валерый МАСЛЮК; ідзе торг; кнігі, прапанаваныя для аўкцыёну.

Фота С. КРЫЦКАГА.






З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# ПЛЕНУМ ЦК КПСС

17—18 лютага ў Маскве прайшоў Пленум Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.

На разгляд і абмеркаванне было вынесена вельмі важнае сёння для краіны пытанне аб ходзе перабудовы савецкай сярэдняй і вышэйшай школы. З дакладам па гэтай праблеме выступіў сакратар ЦК КПСС Я. Лігачоў. Ён прааналізаваў сітуацыю, якая склалася цяпер у галіне адукацыі, засяродзіў увагу на тых напрамках, якія патрабуюць карэннай перабудовы. Сярод іншых важных момантаў Я. Лігачоў спыніўся на праблеме патрыятычнага і інтэрнацыянальнага выхавання моладзі. Ён, у прыватнасці, сказаў: «Сярод заваёў сацыялізму, якімі заўсёды даражыць савецкі патрыёт і якія ён лічыць нязменным сваім абавязкам ахоўваць і мацаваць, на самым прыметным месцы стаіць дружба народаў нашай краіны. На Захадзе робяць стаўку на ажыўленне нацыяналістычных праяўленняў у СССР. Нельга, каб установы сістэмы адукацыі аказаліся ва ўладзе распаўсюджаных заспакоеных уяўленняў аб беспраблемнасці міжнацыянальных адносін.

Пастаяннай увагі патрабуе развіццё нацыянальна-рускай двухмоўнасці. Кожная мова — неад'емная частка нашага агульнага багацця. На жаль, партыйным і савецкім органам некаторых рэгіёнаў не хапае ў гэтых пытаннях рэалістычнасці, гібкасці, а часам і палітычнага разумення пытання.

У пытанні аб мове недапусцімыя ніякія прывілеі або абмежаванні, а тым больш прымушэнне. Адмова ад добраахвотнасці пры выбары бацькамі мовы навучання дзяцей прывяла б да парушэння дэмакратычных прынцыпаў у нацыянальным пытанні. Нельга таксама дапускаць, каб законная любоў да роднай мовы ператваралася ў моўны шавінізм. У сваю чаргу неабходна ўсяляк заахвочваць вывучэнне мясцовай нацыянальнай мовы прадстаўнікамі іншых нацыянальнасцей, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі той або іншай рэспублікі».

На другі дзень работы Пленума перад прысутнымі з вялікай прамовай выступіў Генеральны сакратар ЦК КПСС М. С. Гарбачоў. Яна была прысвечана ідэалагічным праблемам перабудовы.

# ПРЫЁМ М. С. ГАРБАЧОВЫМ ДЖЭФРЫ ХАУ

16 лютага М. С. Гарбачоў прыняў у Крамлі міністра замежных спраў і па справах садружнасці Вялікабрытаніі Дж. Хау. Візіт англійскага міністра разглядаецца ў Савецкім Саюзе ў кантэксце палітычнага дыялогу з Захадам.

Мы вядзём адкрытую міжнародную палітыку, адзначыў М. С. Гарбачоў, а да спраў Еўропы асабліва адчувальныя. І робім так, каб заўсёды быць правільна зразуметымі. Таму, натуральна, разлічваем, што і нашы партнёры, у тым ліку Вялікабрытанія, будуць весці справы так, каб і нам была зразумелая іх логіка, сэнс іх палітыкі. Інакш давер'я не пабудуеш.

На сустрэчы было адзначана, што Вялікабрытанія прыметна астыла да заключэння канвенцыі аб забароне хімічнай зброі. Зацягваецца выпрацоўка мандата на венскай канферэнцыі. М. С. Гарбачоў зноў напомніў аб шчырай гатоўнасці Савецкага Саюза, усіх дзяржаў Варшаўскага Дагавора сесці за стол перагавораў, выкласці ўсе карты, заняцца асіметрыямі і ўсімі іншымі праблемамі з мэтай давядзення ваенных патэнцыялаў да ўзроўню, неабходнага толькі для абароны.

Новае мысленне, здараецца, успрымаюць усяго тэлькі як інтэлектуальны занятак. Але калі СССР на яго аснове робіць зусім канкрэтныя крокі, рэцыруюцца, ухіляюцца ад супрацоўніцтва.

Адна з прычын усёй гэтай непаслядоўнасці, сказаў М. С. Гарбачоў, заключаецца ў тым, што занадта глыбока засеў у мазгах у заходніх палітыкаў «вобраз ворага», які толькі і думае, як бы на каго напасці, толькі і шукае ахвяру... Свет мае патрэбу ў палітыцы, адэкватнай часу.

Былі закрануты некаторыя рэгіянальныя канфлікты — ірана-іракская вайна, становішча на Поўдні Афрыкі.

М. С. Гарбачоў выклаў прынцыповыя пазіцыі савецкага кіраўніцтва ў афганскім пытанні, падкрэсліў рашучасць дзейнічаць паслядоўна і без затрымак у адпаведнасці з Заявай ад 8 лютага.

Субяседнікі абмяняліся думкамі аб стане двухбаковых эканамічных сувязей. М. С. Гарбачоў адзначыў, што брытанскія фірмы ў параўнанні з фірмамі іншых краін горш карыстаюцца новымі магчымасцямі, якія адкрыла перабудова ў СССР.

# ВІЗІТЫ, СУСТРЭЧЫ, ГУТАРКІ

**15—17 ЛЮТАГА Ў СТАЛІЦЫ БЕЛАРУСІ ЗНАХОДЗІЎСЯ ГЕНЕРАЛЬНЫ КОНСУЛ МНР У ЛЕНІНГРАДЗЕ З. ЭНЭБІШ, У КОНСУЛЬСКУЮ АКРУГУ ЯКОГА ЎВАХОДЗІЦЬ І БЕЛАРУСКАЯ ССР.**

**Генконсул З. Энэбіш быў прыняты адказнымі работнікамі рэспублікі.**

**У Беларускім таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі генеральны консул МНР сустрэўся з актывістамі Мінскага гарадскога аддзялення Таварыства савецка-мангольскай дружбы.**

**Генеральны консул сустрэўся з мангольскімі грамадзянамі, якія вучацца ў Мінску.**

**МІНСК НАВЕДАЎ ТАКСАМА САВЕТНІК-ПАСЛАННІК ПАСОЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ КУБА Ў СССР РАФАЭЛЬ МІРАБАЛЬ І САВЕТНІК ПАСОЛЬСТВА РЭНІО ДЗІЯС.**

**Госці мелі гутаркі ў ЦК КПБ, Дзяржплане БССР, Міністэрстве аховы здароўя БССР і Дзяржаўным аграпрамысловым камітэце БССР, пабывалі на Мінскім трактарным заводзе.**

**Кубінскія і мангольскія госці наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП, Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, агледзелі экспазіцыю Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі БССР, азнаёміліся з выдатнымі мясцінамі горада-героя Мінска.**

**ДЭЛЕГАЦЫЯ ПРАЦОЎНАЙ ПАРТЫІ КАРЭІ НА ЧАЛЕ З НАМЕСНІКАМ РЭДАКТАРА ЧАСОПІСА ЦК ППК «КЫЛАЧЖА» ЛІ ДЭН НАМАМ, ЯКАЯ ЗНАХОДЗІЛАСЯ Ў БЕЛАРУСІ, БЫЛА ПРЫНЯТА Ў ЦК КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ.**

**У ходзе візіту госці пабывалі таксама на Мінскім трактарным заводзе, у вытворчым тонкасуконным аб'яднанні. Яны азнаёміліся з вытворчасцю, умовамі працы і адпачынку людзей.**

**Адбылася гутарка ў Саюзе журналістаў БССР.**

**Члены дэлегацыі зрабілі азнаямленчую паездку па гораду, наведалі Дом-музей І з'езда РСДРП, агледзелі экспазіцыі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны і Музея беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах.**

**Карэйскія камуністы наведалі мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Курган Славы.**

БЕЛАРУСЬ І ААН

## АГУЛЬНАЧАЛАВЕЧЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Актыўна ўдзельнічае ў 44-й сесіі Камісіі ААН па правах чалавека дэлегацыя Беларускай ССР. Выступаючы ў дыскусіі па пытанню аб ажыццяўленні ва ўсіх краінах эканамічных, сацыяльных і культурных правоў, Л. Яўменаў асабліва падкрэсліў прыярытэтны характар права грамадстваў і народаў на развіццё. Гэта праблема носіць агульначалавечы, агульнапланетарны характар, таму што свет, дзе побач з вялікімі эканамічнымі магутнасцямі існуюць слабаразвітыя краіны і рэгіёны, дзе побач з сытасцю лёсам дзесяткаў мільёнаў застаецца пастаянны голад, — такі свет не заслугоўвае высокага імені «цывілізацыя». Высокаразвітыя краіны Захаду таксама не пазбаўлены ад такіх негатыўных з'яў, як беспрацоўе, бяздомнасць, дэградацыя сацыяльнай актыўнасці большай часткі насельніцтва, расізм і інш.

Першаступенным напрамкам дзейнасці ААН у рамках міжнароднага супрацоўніцтва ў галіне правоў чалавека з'яўляецца барацьба з грубымі і масавымі парушэннямі правоў чалавека, заявіў другі член дэлегацыі БССР М. Камісараў. Вялікі ўклад у развіццё такога супрацоўніцтва ў гуманітарнай галіне можа ўнесці Камісія ААН па правах чалавека. Гэта садзейнічала б лепшаму ўзаемаразуменню, узаемнай павазе, давер'ю і цярпімасці ў адносінах паміж народамі.

ТУРЫЗМ

## НА ВЫХАДНЫЯ — ЗА МЯЖУ

Паміж аддзяленнем Дзяржкамінтурыста і бюро па турызму Таварыства польска-савецкай дружбы «Калінка» падпісаны дагавор аб развіцці прыгранічнага супрацоўніцтва на 1988 год. Акрамя традыцыйных форм турысцкага абмену па лініі таварыстваў дружбы, выездаў на музычныя, тэатральныя, спартыўныя святы, а таксама груп на адпачынак, у ім прадугледжаны туры выхаднога дня з наведаннем Варшавы, Любліна, Бяла-Падляскі, іншых гарадоў ПНР. Кожную пятніцу туды будуць накіроўвацца два камфартабельныя аўтобусы з Брэста. У сваю чаргу польскія госці па пуцёўках будуць знаёміцца ў выхадныя дні з выдатнымі мясцінамі Брэста, Пінска і іншых гарадоў вобласці.

ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ

## ДРУЖАЦЬ ГРОДНА І ЛІМОЖ

Музей французскага горада Ліможа размясціўся ў гродзенскай школе нумар 8. Адкрытая для наведвальнікаў экспазіцыя расказвае аб дружбе параднёных гарадоў, аб слаўных вехах у гісторыі двух народаў.

Асобы раздзел складаюць кнігі, паштоўкі, даведнікі пра Лімож, герб горада, нумары мясцовай газеты. Шматлікія фатаграфіі ўзнаўляюць эпізоды сустрэч гродзенцаў і жыхароў цэнтра аднаго з дэпартаментаў Францыі, якія не раз бывалі адзін у аднаго. Мовай газетных артыкулаў, фотаздымкаў і іншых дакументаў паказаны слаўны шлях эскадрыллі «Нармандыя — Нёман». Тут жа прадстаўлены ордэны і медалі, якімі ўзнагароджваліся савецкія і французскія лётчыкі. Экспазіцыю дапаўняюць сувеніры, пісьмы школьнікаў дзвюх краін.

НА АВІЯТРАСАХ



**Нялёгкая праца ў пілотаў Гомельскага авіяатрада, якія абслугоўваюць будаўнікоў трэста «Белнафтадарбуд» у Заходняй Сібіры. Самую разнастайную работу даводзіцца выконваць беларускім пілотам: вызначаць трасы будучых зімнікаў, дастаўляць прадукты і пошту, перавозіць людзей.**

**НА ЗДЫМКУ: кіраўнік трэста «Белнафтадарбуд» А. АКАТАЎ (справа) і камандзір верталёта пілот першага класа В. СІЛІН удакладняюць маршрут палёту.**

ЭКСПРЭС-ІНТЭРВ'Ю

# КНІЖНЫ АЎКЦЫЁН

**На пытанні з нагоды першага антыкварна-букіністычнага аўкцыёну адказвае дырэктар Мінскага абласнога кнігагандлю Уладзімір ЛАПЦЁНАК.**

— КОЛЬКІ І ЯКІЯ КНІГІ БЫЛІ ПРАПАНАВАНЫ НА ПРОДАЖ І ЯК ВЫЗНАЧАЎСЯ ІХ ПАЧАТКОВЫ КОШТ?

— Па каталогу, які мы прапанавалі напярэдадні аўкцыёну, значыцца 113 рэдкіх выданняў (з іх восем на замежных мовах), якія выйшлі да 1961 года і маюць асобую гістарычную, культурную і мастацкую каштоўнасць. У падрыхтоўчы перыяд тры тыдні кнігі выстаўляліся для азнаямлення з імі патэнцыяльных пакупнікоў у букіністычнай кнігарні «Вянок», што ў Троіцкім прадмесці.

Пачатковы кошт кожнай кнігі вызначаўся па каталогу-прэйскуранту. Тыя ж выданні, што не ўключаны ў яго, ацэньвала спецыяльная камісія, у якую ўваходзілі бібліятэчныя і гандлёвыя работнікі, вядомыя мінскія бібліяфілы. Абавязкова ўлічвалася меркаванне на гэты конт уладальніка выдання. Мінімальны кошт быў пяць рублёў, максімальны — 1 300 рублёў.

— ЦІ ЎСЁ З ПРАПАНАВАНАГА БЫЛО РАСКУПЛЕНА?

— Засталася невялікая колькасць кніг, якія мы вярнулі ўладальнікам. Напрыклад, вельмі цікавыя, на мой погляд, выданні па архітэктуры. Тут выявіўся пралік у арганізацыі рэкламы. Трэба было больш папрацаваць з тымі прафесійнымі катэгорыямі людзей, якія маглі б зацікавіцца прапануемымі кнігамі. Гэта абавязкова ўлічым у будучыні.

— ЯК ВЫ АЦЭНЬВАЕЦЕ АКТЫЎНАСЦЬ ПАКУПНІКОЎ?

— Як вельмі высокую. Былі выданні, кошт якіх ад 50 рублёў даходзіў да 300. Наогул сабралася больш паўтысячы аматараў кніг, прадстаўнікоў бібліятэк і музеяў. Кантынгент падабраўся вельмі разнастайны — і па ўзросту, і па прафесійнаму, і па сацыяльнаму складу. Бачыў у зале нашых пісьменнікаў: Максіма Лужаніна, Барыса Сачанку. Шмат прыйшло моладзі. Іх асабліва цікавіла гістарычная літаратура. Напрыклад, маладая дзяўчына набыла за 600 рублёў сямітомнік «Айчынная вайна і рускае грамадства 1812—1912 гадоў», выдадзены ў 1911 годзе таварыствам Сыціна. Такія прыклады можна было б прыводзіць і далей.

— ЯКІЯ БЕЛАРУСКІЯ ВЫДАННІ БЫЛІ ПРАПАНАВАНЫ?

— «Дудка Беларуская» Францішка Багушэвіча, выдадзеная ў Вільні ў 1921 годзе, кніга Яўхіма Карскага «Беларусы» за 1904 год, кнігі Купалы выдання 1913, 1927 і 1941 гадоў, «Слова аб палку Ігаравым», выпушчанае ў Мінску ў 1938 годзе...

— ХТО КАРЫСТАЎСЯ ПРЫЯРЫТЭТАМ У НАБЫЦЦІ НАЙБОЛЬШ КАШТОЎНЫХ ВЫДАННЯЎ: ІНДЫВІДУАЛЬНЫЯ ПАКУПНІКІ ЦІ ЗАЦІКАЎЛЕНЫЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ЎСТАНОВЫ?

— Ва ўсіх правы былі роўныя. Калі прасцей, то, хто больш зможа заплаціць, той і купляе. І, на жаль, здаралася, што ў бібліятэкі ці музея грошай аказвалася менш. Каштоўнасць трапляла ў прыватны збор. Напрыклад, самым актыўным пакупніком быў ксёндз з Баруноў Гродзенскай вобласці Ян Матусевіч. Ён прызнаўся, што яго збор — звыш сямі тысяч тамоў — практычна закрыты для іншых, бо сам ксёндз адносіць сябе да тых збіральнікаў, якія развітваюцца з кнігай вельмі неахвотна, нават на невялікі час. І я думаю, што ён не адзін такі сярод бібліяфілаў.

— ЯК ЖА РАЗМЯРКОЎВАЛІСЯ АТРЫМАНЫЯ ГРОШЫ?

— Дваццаць працэнтаў ад прадажнага кошту ішлі ў касу гандлю, астатняе — уладальніку-прадаўцу.

— ЦІ БУДУЦЬ ЯШЧЭ АЎКЦЫЁНЫ?

— Так, першая спроба, мы лічым, была паспяховай. Наступны аўкцыён плануем правесці сёлета ў другім паўгоддзі.

*ВЫРАШАЦЬ ПРАБЛЕМУ... ЯШЧЭ ДА ЯЕ З'ЯЎЛЕННЯ*

# КАБ ГОРАД БЫЎ ЗДАРОВЫМ

Больш за 50 прамысловых прадпрыемстваў знаходзіцца ў Віцебску. І тым не менш горад гэты экалагічна лічыцца дастаткова чыстым.

Такое становішча, зрэшты, існавала не заўсёды. 25—30 год назад сітуацыя была даволі складанай. Амаль усе фабрыкі і заводы «скучваліся» тады каля рэк—Дзвіны і Віцьбы. Больш за 600 труб злівалі сюды адпрацаваную ваду! Паветраачышчальныя збудаванні былі не ўсюды, а тыя, што меліся, далёка не заўсёды служылі сапраўдным «бар'ерам» для сажы, пылу.

Для аздараўлення горада запатрабавалася правесці сур'ёзную работу, якая пачалася з перапланіроўкі.

У адпаведнасці з рэкамендацыямі спецыялістаў у горадзе былі створаны спецыяльныя прамысловыя зоны. Напрыклад, на ўсходзе, дзе інтэнсіўна вядзецца будаўніцтва жылых мікрараёнаў, размясціліся самыя «чыстыя» вытворчасці. Прадпрыемствы кожнай зоны (футравая фабрыка, мясакамбінат) аддзяляюць ад жылля 500—1 000 метраў. А такія пыльныя заводы, як цагельны, дрэнажны, і зусім ужо ў заградным поясе, да таго ж на паўночным усходзе, адкуль вятры дуюць радзей за ўсё.

Цяпер у цэнтры засталося значна менш прадпрыемстваў. Праўда, сярод іх такія буйныя, як, напрыклад, станкабудаўнічы завод. І ўсё ж, дзякуючы ўкараненню самых сучасных ачышчальных збудаванняў, вось ужо некалькі год у Віцебску няма перавышэння разавых крайне дапусцімых норм канцэнтрацыі ў паветры пылу, вугляроду, вокісу азоту, сярністага газу. Да 2000-га года, калі за межы жылых масіваў будзе вынесена яшчэ 15 заводаў і 2 аўтагаспадаркі, паветра ў горадзе, як паведамілі на санітарна-эпідэміялагічнай станцыі, стане зусім «здаровым».

Нямала сіл і сродкаў было патрачана гарадскімі ўладамі і для вырашэння іншай прыродаахоўнай праблемы: вельмі брудныя былі воды ў рэках, сустракаліся нават выпадкі захворванняў. Але ў канцы 60-х гадоў была распрацавана спецыяльная праграма цэнтралізацыі сістэмы каналізавання. Яе мэта—папершае, поўнасцю спыніць скід у рэкі прамысловых вод, а па-другое, збіраць у адным месцы і ачышчаць усе сцёкавыя воды.

Задача няпростая. Хаця б таму, што для яе вырашэння трэба было пабудаваць некалькі соцень кіламетраў каналізацыйных сетак, кожны з якіх каштуе амаль мільён рублёў (земляныя работы, укладка труб, пераноска кабеляў, водаправодаў, а то і будынкаў). І хаця гэта каласальная работа пакуль яшчэ не завершана, ужо 98,5 працэнта сцёкавых вод праходзяць самы жорсткі кантроль. Праз некалькі год ачысцы будзе падвяргацца ўся без выключэння сцёкавая вада: створаны праект другой чаргі гарадской станцыі аэрацыі магутнасцю на 120 тысяч тон (цяпер у суткі перапрацоўваецца 100 тысяч кубаметраў). Мала таго, плануецца збіраць і ачышчаць не толькі сцёкавыя, але і ліўневыя воды—усе тыя ручаі і ручайкі, што сцякаюць пасля дажджоў у рэкі.

Былі прыняты таксама і іншыя меры, каб вярнуць чысціню і паўнаводдзе рэкам, што працякаюць праз Віцебск. Так, распрацаваны праект па адраджэнню Віцьбы, якая моцна абмялела: воды з падземнага возера, што ўтварылася ў выніку здабычы даламіту за 8 кіламетраў ад Віцебска, будуць перакінуты ў Віцьбу. Дарэчы, будаўніцтва каналаў-вадаводаў, помпавых станцый, вадасховішчаў вядзецца не толькі за кошт гарадскога бюджэту, але і на сродкі шэрагу прамысловых прадпрыемстваў.

Немалая работа вядзецца і ў іншых напрамках. у прыватнасці, прадумваюцца меры для таго, каб да мінімуму звесці негатыўны ўплыў на чысціню паветра гарадскога транспарту. Ёсць праекты па стварэнню гарадскіх і прыгарадных зон адпачынку. Пачаты перавод кацельняў і тэхналагічных топак на спальванне прыроднага газу. З дапамогай вучоных распрацаваны «Зводны том аховы атмасферы і крайняй дапусцімай канцэнтрацыі», у якім улічана ледзь ці не абсалютна ўсё, што дапаможа звесці на нішто яшчэ існуючыя выкіды шкодных рэчываў: размяшчэнне прадпрыемстваў, магутнасці ачышчальных збудаванняў, напрамак вятроў у розны час года і нават у розны час сутак.

— Уся наша бяда ў тым, —сказалі мне ў Віцебскім гарвыканкоме,—што да сённяшняга дня мы, на жаль, у асноўным займаліся тым, што выпраўлялі ранейшыя памылкі. Пераносілі за горад заводы, ратавалі намі ж «замучаныя» рэкі. А любую праблему трэба вырашаць яшчэ да яе... з'яўлення, вось тады поспех гарантаваны. Спадзяёмся, што цяпер толькі так і будзе. Таму што прырода патрабуе клопату і ўвагі не ад выпадку да выпадку, а пастаянна, тым больш у вялікім горадзе.

**Наталля БУЛДЫК.**



**Скарацілі шлях ад распрацоўкі да ўкаранення навуковых дасягненняў у вытворчасць вучоныя Брэсцкага інжынерна-будаўнічага інстытута. Створаная тут на базе кафедры хіміі галіновая навукова-даследчая лабараторыя «Антыкор» дазволіла ўпершыню ў практыцы вышэйшых навучальных устаноў рэспублікі наладзіць выпрабаванне і доследную вытворчасць новых танных і трывалых будаўнічых матэрыялаў, антыкаразійных ахоўных пакрыццяў. Новыя канструкцыйныя матэрыялы, атрыманыя на доследна-прамысловай рэактарнай устаноўцы, вызначаюцца высокай надзейнасцю. Напрыклад, палімербетон па трываласці перавышае самыя высакаякасныя маркі бетону.**

**Доследным шляхам у лабараторыі таксама атрыманы штучны граніт і мармур, якія не ўступаюць па сваіх якасцях натуральным. Для іх вырабу шырока выкарыстоўваюцца адходы вытворчасці будаўнічай, тэкстыльнай і дрэваапрацоўчай галін прамысловасці. Гэта каштуе ў сем-восем разоў танней, чым здабыча і апрацоўка натуральных парод. Неўзабаве вытворчасць штучнага мармуру і граніту, на якія сёння вялікі попыт, будзе наладжана на Кобрынскім камбінаце будаўнічых матэрыялаў, якому вучоныя перадалі тэхналогію іх выпуску. Не менш эканамічнае і эфектыўнае ахоўна-дэкаратыўнае пакрыццё для металавырабаў, жалезабетону, цэглы і іншых матэрыялаў, якое мае высокія процікаразійныя ўласцівасці, павялічвае тэрмін іх эксплуатацыі больш чым у два разы, стойкае да кіслотных і іншых агрэсіўных асяроддзяў.**

**Толькі за апошнія два гады вучонымі кафедры атрымана больш дзесяці аўтарскіх пасведчанняў на вынаходніцтвы. Частка з іх ужо ўвасоблена ў канкрэтныя тэхналогіі і перададзена прамысловым прадпрыемствам.**

**І. КУКСА.**

**НА ЗДЫМКУ:** загадчык кафедры хіміі інстытута **З. ЗІНОВІЧ** (у цэнтры), інжынеры **Л. ГАРАЛЬЧУК, І. ЗІБОРАВА** і **Н. ПАТСЮК** абмяркоўваюць праблемы вырабу новых кампазіцыйных матэрыялаў.

**Фота Э. КАБЯКА.**

## ЯК ПУБЛІЧНАСЦЬ ПРАБІВАЕ САБЕ ДАРОГУ «ЎНІЗ»

# ЛІЧАЧЫСЯ З МЕРКАВАННЕМ ЛЮДЗЕЙ...

**Паводле даных апытання, праведзенага Інстытутам сацыялагічных даследаванняў Акадэміі навук СССР, большасць савецкіх грамадзян лічаць, што за апошнія гады ўзровень іх інфармаванасці па пытаннях унутранай і знешняй палітыкі ўрада ўзрос: гэта адз[illegible]лі 69 працэнтаў апытаных, 59 працэнтаў у[illegible]алі на ўзрослую ступень удзелу насельніцтва ў прыняцці агульнадзяржаўных рашэнняў. У той жа час на пытанне — «ці задавальняе вас стан публічнасці па праблемах, што тычацца жыцця вашага горада, раёна!» — станоўча ад[illegible]залі толькі 40 працэнтаў, а 42 працэнты далі адмоўны адказ. Па месцу жыхарства «ўзроўнем публічнасці» задаволены толькі 27 працэнтаў апытаных. Невысока ацэньваецца і ступень асабістага ўплыву на рашэнне мясцовых праблем.**

**Што трэба зрабіць, каб публічнасць больш актыўна прабівала сабе дарогу «ўніз»! Такое пытанне сёння хвалюе ў краіне многіх. Сваімі думкамі пра гэта дзеліцца старшыня выканкома Савета народных дэпутатаў Гомельскай вобласці Аляксандр ГРАХОЎСКІ.**

Прааналізаваўшы дзейнасць усіх 359 мясцовых Саветаў Гомельскай вобласці — гарадскіх, раённых, сельскіх, мы зрабілі вывад, што справа не ў нежаданні, а ў няўменні многіх органаў улады працаваць ва ўмовах узрастаючай дэмакратыі — адкрыта абмяркоўваць вострыя праблемы, звяраць рашэнні, якія прымаюцца, і свае дзеянні з грамадскай думкай. Гэтаму ёсць, вядома, і аб'ектыўныя прычыны: псіхалагічная перабудова заўсёды цяжкая і, як правіла, адстае ад сацыяльнай.

І ўсё ж у радзе месцаў пералом ужо намячаецца. Улады 100-тысячнага Мазыра на ўласным вопыце пераканаліся, напрыклад, у тым, што публічнасць — добры памочнік у вырашэнні актуальных праблем. Кансультацыі з шырокім колам людзей дазволілі, у прыватнасці, выпрацаваць рэальную праграму жыллёвага будаўніцтва, мэта якой — забяспечыць да 2000 года кожную сям'ю асобнай кватэрай. Гэта праблема абмяркоўвалася практычна ва ўсіх працоўных калектывах горада. І амаль усюды людзі акцэнтавалі ўвагу на гаспадарчым спосабе будаўніцтва жылля, калі ў дапаўненне да кватэр, якія будуюцца на дзяржаўныя сродкі, калектывы заводаў і фабрык узводзяць жыллё для сваіх супрацоўнікаў і ўласнымі сіламі, ці, як у нас гавораць, гаспадарчым спосабам. Дзякуючы гэтаму, на заводзе меліярацыйных машын, напрыклад, чарга на паляпшэнне жыллёвых умоў стала рухацца ў два разы хутчэй. У выніку ўжо да 1994 года асобнымі кватэрамі будуць забяспечаны ўсе работнікі прадпрыемства. Словам, працоўныя калектывы выказаліся за тое, каб гэты вопыт больш шырока прымяняўся ў маштабах усяго горада.

Абапіраючыся на меркаванні рабочых, гарадскі Савет сумеў пераканаць, а іншых гаспадар[illegible] кіраўнікоў — прымусіць развіваць карыснае пачынанне. Цяпер такое будаўніцтва вядуць усе буйныя прадпрыемствы горада.

Увогуле, у Мазыры ўзялі за правіла не прымаць ніводнага рашэння, якое закранае інтарэсы насельніцтва, не высветліўшы папярэдне меркаванне гараджан наконт яго. Гэта тычыцца праблем, звязаных з горадабудаўніцтвам, арганізацыяй масавых святаў, змяненнем рэжыму работы розных устаноў і да т. п. Калі погляды па тых ці іншых пытаннях не супадаюць, усё вырашае камісія, у склад якой уваходзяць і прадстаўнікі грамадскасці.

У кантакце з выбаршчыкамі працуе і выканаўчы камітэт Жлобінскага раённага Савета. Высветліўшы, напрыклад, якія кааператывы ў сферы абслугоўвання патрэбны насельніцтву, выканком заняўся іх арганізацыяй. Скажам, жыхары вёскі Папаратнае хацелі мець кааператыў, які аказваў бы паслугі па нарыхтоўцы паліва, перавозцы грузаў, апрацоўцы прысядзібных участкаў. З дапамогай дэпутатаў Савет знайшоў людзей, якія жадаюць і здольны займацца такім відам кааператыўнай працы, і аказаў ім садзеянне ў набыцці тэхнікі і інвентару. У першы ж тыдзень работы кааператыва яго паслугі атрымалі каля сямідзесяці чалавек.

Жывая сувязь з насельніцтвам адбілася і на рабоце сесій Саветаў — асноўнай прававой формы калектыўнага кіраўніцтва. На іх разглядаюцца самыя актуальныя пытанні, якія ўваходзяць у кампетэнцыю таго ці іншага органа ўлады. Але, шчыра кажучы, да нядаўняга часу значнай цікавасці ў радавога выбаршчыка сесіі не выклікалі, хаця і гаварылася пра іх многа — і ў прэсе, і на сходах, і на розных сустрэчах. Але гаварылася, калі факт ужо адбыўся, гэта значыць сесія прайшла, рашэнні прыняты. Выбаршчыкі ж непасрэднага ўдзелу ў гэтым не прымалі.

Ад такога падыходу мы вырашылі адмовіцца. Скажам, сесія абласнога Савета, на якую выносілася справаздача выканаўчага камітэта за 1986 год, рыхтавалася ўжо не ў кабінетнай цішы, а ў абстаноўцы шырокай публічнасці. Яшчэ за месяц да яе пачатку ў абласной газеце былі змешчаны тэзісы справаздачнага даклада. Праз тую ж газету мы звярнуліся да насельніцтва з просьбай прысылаць свае заўвагі, прапановы аб рабоце выканкома, яго аддзелаў і ўпраўленняў. Акрамя таго, амаль кожны з 340 дэпутатаў Савета выступіў са справаздачай у сваім працоўным калектыве. У агульнай колькасці ў гэтых сходах прынялі ўдзел больш за 20 тысяч чалавек.

Сельскія жыхары, напрыклад, звярталі ўвагу кіраўніцтва вобласці на неабходнасць узмацніць кантроль за працай прадпрыемстваў гандлю, якая выклікае ў іх нямала нараканняў. Вучоныя прапанавалі стварыць пастаянна дзеючую выстаўку «Навукова-тэхнічны прагрэс у народнай гаспадарцы вобласці», якая стала б інфармацыйна - кансультацыйным цэнтрам для спецыялістаў. Усяго ж у ходзе абмеркавання справаздачы выканкома было выказана каля тысячы розных заўваг і прапаноў.

Такі падыход да падрыхтоўкі сесій сёння ўжо трывала ўвайшоў у практыку работы абласнога Савета. Людзі адчулі, што публічнасць — не фармальная працэдура, што з імі лічацца, іх меркаванне паважаюць, яно знаходзіць адлюстраванне ў канкрэтных рашэннях. Таму рэзка павялічыўся паток пісем выбаршчыкаў у выканаўчы камітэт Савета, дзе яны выказваюць свой пункт гледжання па пытаннях, якія намечана вырашыць дэпутатам.

## *ЗАСТАНЕЦЦА Ў НАРОДНАЙ ПАМЯЦІ*

# З'ЯДНАНЫ АДЗІНЫМ ЛЁСАМ

*ДА 70-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ПЯТРА МАШЭРАВА*

Напярэдадні свята Перамогі над фашысцкай Германіяй школьнікі з Баранавіч прыслалі Пятру Машэраву пісьмо: вельмі хацелася ім даведацца рэцэпт партызанскага хлеба. Прачытаў яго Машэраў і задумаўся. Былому партызану ўспомнілася ваеннае ліхалецце і той абмыты слязою лясны хлеб, замешаны на мякіне, жалудах, лебядзе ды бульбяным шалупінні. Спёк нехта з маці дзятве па гэтым рэцэпце хлеб. Кожнаму адрэзалі па кавалачку. Паспытаць—паспыталі яго, але есці не сталі. Бохан «партызанскага» хлеба занеслі ў школьны музей.

...Нялёгкім быў хлеб суровай ваеннай пары. А калі наогул ён быў лёгкім для беларусаў?! У вёсцы Шыркі Сенненскага раёна Віцебскай вобласці, дзе 13 лютага 1918 года нарадзіўся Пётр Машэраў, хлеба раней заўсёды не хапала да новага ўраджаю. Таму пры Савецкай уладзе аб'ядналіся людзі ў калгас, каб разам, калектывам адолець галечу. У нашы дні прыйшоў да сялян дастатак, але, як і даўней, клопат пра хлеб—найпершы. Разумеў гэта і першы сакратар Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Беларусі Пётр Машэраў.

Заклапочаны пошукам эфектыўных шляхоў уздыму сельскай гаспадаркі, ён любіў наведвацца ў калгасы і саўгасы. У рэспубліцы будаваліся высокамеханізаваныя, добраўпарадкаваныя жывёлагадоўчыя фермы. Павялічваўся статак, і ўсё больш патрабавалася кармоў. Раіўся пра гэта Машэраў з вучонымі. Але якія б ні ўносілі яны прапановы па развіццi кормавытворчасці—усё зноў вярталася да зямлі, да павелічэння ўраджайнасці.

Вопыт такога павышэння меўся. Напрыклад, у калгасе «Аснежыцкі» Пінскага раёна Брэсцкай вобласці, якім кіраваў тады і цяпер кіруе Уладзімір Ралько. Пётр Міронавіч неаднаразова ставіў аснежынцаў у прыклад.

— Але аднаго ўзору мала,—любіў гаварыць ён.— Вось каб усе нашы гаспадаркі так працавалі...

А каб на месцы ва ўсім разабрацца, паехаў у «Аснежыцкі» сам. Паказалі дарагому госцю і палі, і фермы, і дамы калгаснікаў. Машэраў ведаў, якімі былі некалі ўраджаі на Палессі. А тут у Аснежыцах спачатку атрымалі 27, пасля—43, а ў 1980 годзе—усе 60 цэнтнераў збожжавых з гектара. Добра ўгноеная зямля шчодра аддзячыла хлебаробам.

Вярнуўшыся ў Мінск, Пётр Машэраў прапанаваў, каб вопыт аснежыцкіх хлебаробаў быў вывучаны, абагулены і даведзены да кожнай гаспадаркі. Гэтае пытанне Машэраў лічыў настолькі важным, што яно абмяркоўвалася на пасяджэнні Бюро ЦК Кампартыі Беларусі.

Як радаваўся Пётр Міронавіч, што людзі паверылі ў поспех, у тое, што на бедных нашых землях можна вырошчваць высокія ўраджаі! З'явіліся гаспадаркі, якія спачатку дагналі, а потым пачалі пераганяць аснежынцаў. Увогуле падцягнулася ўся рэспубліка, пачала ў сярэднім за год атрымліваць па пяць мільёнаў тон збожжа.

Гэтак жа клапаціўся Пётр Міронавіч і пра развіццё прамысловасці ў Беларусі. Флагманамі індустрыі былі ў той час мінскія трактарны, аўтамабільны, станкабудаўнічы, маторны заводы. Прадукцыя іх карысталася шырокім попытам у краіне, ішла на экспарт. На міжнародных выстаўках атрымлівалі залатыя медалі, а ён настройваў канструктараў, інжынераў, рабочых дабівацца новых якасных паказчыкаў, каб прадукцыя беларускіх заводаў адпавядала лепшым сусветным узорам.

Дапытлівы, мэтанакіраваны, дзейны Пётр Машэраў не быў кабінетным работнікам. Лёгкі на пад'ём, ён любіў знаходзіцца сярод людзей, гутарыць з імі, спрачацца, цікавіўся ўмовамі іх жыцця і працы. Дзеля гэтага, здаралася, адкладваў паперы і ехаў на завод. Сёння згадваюць гэтыя сустрэчы многія калектывы. Памятаюць пра іх і метрабудаўцы...

Пра метрапалітэн мінчане марылі даўно. Горад разрастаўся, усё цяжэй станавілася з транспартам. Намаганнямі рэспублікі такую будоўлю падняць было цяжка. І ўрад Беларусі, і сам Пётр Міронавіч неаднаразова звярталіся ў Маскву з эканамічным абгрунтаваннем яго пабудовы. Патрэбныя капіталаўкладанні былі атрыманы. Пётр Міронавіч пільна сачыў за ходам работ, горача падтрымліваў метрабудаўцаў. У снежні 1978 года метрабуд выканаў план будаўніча-мантажных і праектна-пошукавых работ, узяўся за распрацоўку тэхніка-эканамічных абгрунтаванняў будаўніцтва другой чаргі метро. Каб не паўтарыць ужо вядомыя збудаванні, Пётр Міронавіч прапанаваў правесці сярод архітэктараў і мастакоў конкурс на лепшы праект метро. Задума спадабалася і дала штуршок для творчага роздуму. На конкурс паступіла 34 праекты. Наладжаны ў інстытуце «Мінскпраект» агляд работ дапамог выявіць найбольш змястоўныя.

Метро жыло. Напамінала аб сабе грукатам молатаў, што забівалі ў зямлю, блакітнымі ўспышкамі электразваркі. Машэраў захацеў сам пабываць на будоўлі. Надзеў метрабудаўскую каску, гумавыя боты і па вузкай лесвіцы спусціўся ў тунель, прайшоў па падземнай вуліцы. Усюды кіпела работа. Машэраў спыніўся каля праходчыкаў. Гутарыў з імі, паціскаў іх моцныя рукі, выслухваў кіраўніка і рабочага, высвятляў цяжкасці. Ён ведаў, што метрабудаўцы пераадолелі ўжо і плывуны, і падземныя рэкі, і магутныя валуны. І радаваўся гэтым поспехам. Вярнуўшыся ў ЦК КПБ, перш за ўсё сеў за тэлефон. Пазваніў у Савет Міністраў БССР. Вырашыў шэраг практычных спраў з яго старшынёй Аляксандрам Аксёнавым. Пасля—у Дзяржаўны камітэт па матэрыяльна-тэхнічнаму забеспячэнню, а работу якога было найбольш наракanняў.

У ліпені 1978 года Пётр Машэраў атрымаў залатую зорку Героя Сацыялістычнай Працы і ордэн Леніна. Беларусь спраўлялася з вытворчымі планамі па развіццю прамысловасці, сельскай гаспадаркі, паспяхова развівалася навука, культура. Нямала зрабіў для ўсяго гэтага і Машэраў. Узнагарода была заслужанай. Зорка Героя Працы ззяла на яго пінжаку побач з зоркай Героя Савецкага Саюза. А ён заставаўся ўсё такім жа дзелавым і сціплым. Сціпласць была адметнай рысай яго характару. Хоць ганарыцца меў поўнае маральнае права. Гэта пацвердзяць і сёння ветэраны вайны і працы, тыя з уцалелых у ваенным ліхалецці яго вучняў і паплечнікаў, якія заўсёды ішлі поруч.

...Савецкая ўлада дала магчымасць Пятру Машэраву, як і тысячам іншых сялянскіх дзяцей, вучыцца. Да вайны ён скончыў Віцебскі педагагічны інстытут. Вярнуўся ў родныя мясціны, выкладаў у Расонскай сярэдняй школе фізіку і матэматыку. Юнак марыў пра навуковую дзейнасць, але ўсё перакрэсліла вайна. Вораг рваўся да Масквы. Пётр Машэраў трапіў у апалчэнне. Не паспеўшы ўзброіцца, батальён апалчэнцаў апынуўся ў акружэнні. Палонных загналі ў таварныя вагоны і павезлі ў Германію. Але Пятру Міронавічу ўдалося здзейсніць дзёрзкія ўцёкі і ўключыцца ў барацьбу.

У жніўні 1941 года ён стварыў у Расонах падпольную арганізацыю, у якую ўвайшло 38 настаўнікаў і вучняў, а потым усе разам яны пайшлі ў партызаны. З цягам часу атрад Машэрава «Дубняк» вырас у партызанскую брыгаду, а камандзір стаў яе камісарам. Партызаны ўзрывалі масты, знішчалі варожыя гарнізоны, склады, ратавалі насельніцтва ад вывазу ў Германію. У нялёгкай барацьбе з ворагам заўсёды была побач жонка Паліна Андрэеўна, якая ўзначальвала санітарна-медыцынскую службу.

А пасля вайны яго захліснула праца. Ён быў сакратаром Маладзечанскага абкома камсамола, сакратаром, а пасля першым сакратаром ЦК камсамола Беларусі. Нягод і цяжкасцей было нямала. У гэтай нялёгкай пасляваеннай працы гартаваўся, сталеў характар Машэрава. І дзе б ён ні працаваў, якую б пасаду ні займаў, ён ніколі не аддзяляў сябе ад народа, яго клопату і патрэб. Нават тады, калі быў першым сакратаром ЦК КПБ, знаходзіў час, каб убачыцца з баявымі сябрамі. Адна з такіх сустрэч адбылася ў Расонах. Моўчкі стаяў ён каля брацкай магілы, у якой былі пахаваны закатаваныя партызанскія сувязныя. Сярод іх маці — Дар'я Пятроўна Машэрава. Яе схапілі як заложніцу і расстралялі разам з іншымі на досвітку ў верасні 1942 года. Ён нічога не мог зрабіць для іх выратавання. Потым партызаны раскапалі ледзь прысыпаную зямлёй магілу і пахавалі загінуўшых з пашанай. Пётр Міронавіч пазнаў маці па сукенцы...

Памяць аб вайне жыла ў ім заўсёды. І каб ніколі не паўтарылася навала, каб людзі ведалі, якімі ахвярамі здабыта свабода, Пётр Машэраў нястомна змагаўся за мір. У час сустрэч і гутарак з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі ён пераконваў, што выхоўваць народ трэба на прыкладах нашай слаўнай мінуўшч[illegible], што гісторыя, памяць [illegible]ны быць увасоблены ў творах мастацтва, выдатных помніках.

Разумеючы значэнне ваенна-патрыятычнага выхавання, Пётр Міронавіч адзначаў, што не менш важна вучыць молад[illegible] прыкладах мірнага пра[illegible]нага гераізму, на ўзорах жыцця і працы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Івана Мележа, чый духоўны скарб з'яўляецца гордасцю, нацыянальным багаццем Беларусі.

Клапоцячыся пра развіццё нацыянальнай беларускай культуры, Машэраў-камуніст заўсёды памятаў пра міжнацыянальнае адзінства савецкага народа, якое робіць СССР непахісна моцным.

Нацыянальныя адносіны вельмі клапацілі Машэрава. Ён бачыў тут пралікі, гаварыў аб іх. Разумеў, што нацыянальную годнасць, любоў да Беларусі, роднага матчынага слова трэба спалучаць з павагай да культуры, мовы, традыцый іншых народаў. Ён быў інтэрнацыяналістам. Гэта былі нялёгкія пытанні. Але Машэраў з уласцівым яму натхненнем знаходзіў шляхі для іх вырашэння.

Жыццё імкліва ішло наперад. Пётр Міронавіч паглыбляў свае веды, дапазна заседжваўся над творамі Леніна. Усё цяжэй даводзілася выкройваць час для адпачынку, для сям'і. Калі ж гэта свята здаралася, ён, Паліна Андрэеўна, дочкі Наталлля і Алена, унучкі ехалі разам у лес, збіралі грыбы, любілі пасядзець ля кастра.

І раптам—бяда. 4 кастрычніка 1980 года аўтамабіль, у якім ехаў Пётр Машэраў, сутыкнуўся з грузавіком... Трагічны, недарэчны выпадак абарваў яго жыццё...

На Усходніх могілках у Мінску, у засені маладых сосHаў, устаноўлены помнік выдатнаму сыну беларускага народа Пятру Машэраву. Каля помніка заўсёды кветкі...

Яму споўнілася б 70. Гэты юбілей супадае з юбілеем утварэння Беларускай ССР і Кампартыі Беларусі. З'яднаны адзіным лёсам з партыяй і народам, ён заўсёды ў народнай памяці.

**Мікалай КУЗНЯЦОЎ.**



*ПІШУЦЬ ЗЕМЛЯКІ*

# МОЖАМ БЫЦЬ САЮЗНІКАМІ

Усім ужо добра вядомы вынікі сустрэчы Генеральнага сакратара ЦК КПСС М. С. Гарбачова і прэзідэнта ЗША Р. Рэйгана. Гэта гістарычная падзея закончылася падпісаннем Дагавора аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці. Мы з поўным правам лічым яго першым крокам на шляху да бяз'ядзернага свету. Але бакі скарачаюць неаднолькавую колькасць ракет. І вядома, было і застаецца пытанне: хто выйграў? Я думаю, адказ тут можа быць адзін: цвярозы розум. Прадстаўнікі Пентагона і іх прыхільнікі вышуквалі розныя прычыны, каб прадухіліць сустрэчу. Але голас народа аказаўся мацнейшым. А цяпер вядзецца жорсткая барацьба вакол ратыфікацыі дагавора.

Дзялкі ваенна-прамысловага комплексу льюць слёзы аб правах чалавека ў Савецкім Саюзе, пытаюцца, чаму яшчэ не выведзены войскі з Афганістана і г. д., але не заўважаюць пад бокам масавае беспрацоўе, бяздомных, галодных. І не толькі ў ЗША — увесь капіталістычны свет заехаў у тупік. Вось, напрыклад, нядаўна газета «Чыкага Сан-Таймс» змясціла рэпартаж з пахавання 39-гадовага ветэрана вайны ў В'етнаме. Ён ужо доўгі час не меў жылля, замёрз на вуліцы. Затое пахавалі пышна, пад дзяржаўным флагам. А пры жыцці гэты чалавек нікому не быў патрэбны. Адміністрацыя арганізацыі ветэранаў прызнае, што адну трэць бяздомных складаюць ветэраны да сарака год і пяцьдзесят працэнтаў з іх ваявалі ў В'етнаме. З псіхіятрычных аддзяленняў дзяржаўных бальніц дзеля эканоміі выпісалі 60 тысяч хворых, і яны папоўнілі шэрагі бяздомных. Статыстыка сведчыць, што за гэтую зіму колькасць бяздомных павялічылася яшчэ на 25 працэнтаў. Пытанне не застаецца без увагі. Не без перашкод з боку багачоў спрабуюць прыняць якія-небудзь заканадаўчыя акты. А пакуль? Людзі мерзнуць на вуліцах. Для паляпшэння іх жыццёвых умоў няма сродкаў, але дзесяткі і сотні мільёнаў долараў на падтрымку контррэвалюцыйных банд і іншыя агрэсіўныя акцыі знаходзяцца. Гэта, маўляў, «абарона свабоды і дэмакратыі». Газеты, радыё і тэлебачанне пастаянна паўтараюць, што сродкі патрэбны на абарону «амерыканскага ладу жыцця». «Свабодны друк» — справа камерцыйная і, вядома, працуе пад дыктоўку гаспадароў. Але народ не захапляецца іх тэорыямі і выступае на абарону сваіх правоў супраць ядзерных выбухаў, ваеннай пагрозы. Сіла прыхільнікаў міру расце. І гэта факт, што яшчэ да прыезду ў Вашынгтон М. С. Гарбачоў атрымаў ад амерыканцаў розных палітычных поглядаў каля 80 тысяч пісем, з якіх бачна, што і амерыканскі народ патрабуе ў сваіх заканадаўцаў мірных пагадненняў.

Чаму мы не можам быць саюзнікамі, як былі некалі? Пасля сустрэчы ў вярхах становішча крыху змянілася. З'явілася рэальная магчымасць развіваць кантакты і супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі ў розных галінах.

**Стэфаніда ТАРЛОЎСКАЯ.**
ЗША.

